Перасылка аплачана рычалтам

Цана нумару 20 гр.

№ 2 Вільня, Аўтора 14 Студзеня 1930 г. Год I

# СЬВІТАНЬНЕ

ТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ ВУЛ № 7 КВ. 16.

„СЬВІТАНЬНЕ" каштуе на год—8 зал., на паўгоду 4 зал.; на чверць году—2 зал., на 1 месяц—1 зал.

ЦАНА АБВЕСТАК на 1 старонцы 40 на 2 і 3—25 гр., на 4—20 гр., за радок дробнага друку ў аднэй плосцы

**Па загаду Віленскага Гродзкага Староства № 61, першы нумар нашай газэты сканфіскаваны („заенты") за наступныя стацьці: 1. „Навакола сойму", 2. „Эурапэйскі Сялянскі Кангрэс", 3. „Канец правакацыі", 4. „Танец сьмерці" (з поваду выхаду ў сьвет газэты „Наперад") і 5. „Рэвізія у бібл.-чыт. бел. каап. „Новы Сьвет".**

**Гэты (2-гі) нумар выпускаем толькі з неканфіскаваных артыкулаў першага нумару.**

# ШЫЛА З МЯШКА

Сярод цэлае масы артыкулаў і вестак у буржуазыйнай і сацыял-угадовай прэсе, скіраваных супроць Савецкага Саюзу, спатыкаюцца часамі і такія, якія выразна кажуць аб тым, што ўсе гэтыя алярмы зьяўляюцца чыстымі выдумкамі буржуазных пісак, якія (выдумкі) разьлічаны на несьвядомую публіку. Так „Кур. Віл." з дня 14 сьнежня г.г., зьмяшчае перадавы артыкул, не разьлічаны ясна на сялянска-работніцкія масы:

„Caveant consules" (зьвярніце увагу).

„На гаспадарчае разьвіцьцё Савецкай Расеі наагул у нас не зьвяртаецца належнае увагі.

У апініі шырокіх мас грамадзянства уклалася перакананьне, што С. С. С. Р. ёсьць толькі абшарам фантастычных камуністычных экспэрымэнтаў і што ўсе гучныя гутаркі бальшавікоў аб індустралізацыі і падвышэньні прадукцыі у працягу пяцёх найбліжэйшых гадоў, зьяўляюцца толькі брахнёй і недарэчнасьцю.

Тым часам гаспадарчая эволюцыя Сав. Расеі ідзе вялікімі шагамі наперад, аб чым сьведчаць наступныя даныя, прыведзеныя інж. Рынгманам на рэфэраце, прачытаным 9 г. м. у Т-ве польскіх эканамістаў і Статыстаў у Варшаве.

Запраўды Расея, экспорт збожжа, якое перад вайной меў 50 прац. усяго вывазу, у сучасны мамэнт з прычыны раздрабленьня вялікае ўласнасьці, не ўваходзіць ў ігру як карміцель Зах. Эўропы, аднак-жа, у галіне разьвіцьця прадукцыі тэхнічных культур выказвае значны поступ. Гэта датычыцца, перадусім, бавоўны, якая адыгравае першарадную ролю ў разьвіцьці савецкай прамысловасьці, тытуну і алеістых насеньняў, прадукцыя якіх ужо значна перавысіла прадваенную. Таксама прадукцыя і вываз далікатных земляробскіх прадуктаў, як масла, яйкаў, мяса значна ўзрасла, да чаго прычынілася ў вялікай ступені разбудова лядоўняў. Нарэшце, вываз дзерава ў адносінах гатунковага цяжару роўны прадваеннаму і складае 12 прац. савецкага вывазу.

Пераходзячы да прамысловасьці трэба заўважыць, што, калі перад вайною вываз прамысловых прадуктаў разам з прамысловым сыраўцом, меў ледзь 20

прац., дык цяпер мае ўжо 60 прац. савецкага вывазу. Прадукцыя газы, катоРая перад вайною выносіла 9,2 м. тон у 1922—23—5,3 мільёна тон, у 1928—29 дасягнула да лічбы 13, 7 мільёна тон, прычым вываз яе у адносінах да прадваенных часоў узрос амаль падвойна, выносясы 14 прац. агульнага вывазу, а вываз бэнзыны павялічыўся ў 4 разы.

Аб аграмадных магчымасьцях Сав. Расеі ў гэтай галіне сьведчыць той факт што агульныя запасы нафты аблічаны на 4,5 мільярда тон. Таксама прадукцыя манганавае руды перавысіла прадваенны ровень. Толькі капальні жалезных руд не дасягнулі яшчэ прадваеннага роўня.

Аграмадныя інвэстыцыі, вынікаючыя з пяцілетняга гаспадарчага пляну, праводзяцца, перадусім, у тых галінах прамысловасьці, якія цесна зьвязаны з земляробствам. Такім чынам, прадукцыя супэрфосфату узрасла на 50 прац., а прадукцыя земляробскіх машын на 250 прац. У ткацкім прамысьле мы бачым аграмаднае разьвіцьце. Даволі паказаць, што тры новыя фабрыкі, нядаўна пабудованыя у Івана-Вазьнесенску, маюць 350,000 верацён. З такою самаю шпаркасьцю разьвіваецца і паперавая прамысловасьць. Адна толькі паперня пад Ніжнім-Ноўгарадам вырабляе што год 36.000 тон паперы, што складаець чацьвертую частку усяе польскае прадукцыі ў гэтай галіне.

На спэцыяльную увагу заслугоўвае электрыфікацыя краю, якая праводзіцца пры помачы Амэрыкі. У 1929—30 годзе прадбачыцца узрост сілы электрычных станцыяў на 336.000 кілеватаў, так-што агульная сіла савецкіх электрычных станцыяў будзе мець 2,5 мільёнаў кілеватаў. У зьвязку з гэтым разьвіваецца вытворчасьць электрычных машын. Вялікі поступ зроблены ў кірунку пабудовы чыгунак і воднае камунікацыі. Рэфэрэнт зьвярнуў увагу што ўсе натуральныя багацтвы знаходзяцца паза абшарам этнаграфічнае Расеі і што жыцьцёвы ровень таго насельніцтва стала абніжаецца коштам праводжаньня інвэстыцыі (вельмі характэрная зьменна да прадваенных гадоў!?*) Перад вайною земляробская прадукцыя Расеі каштавала 10,2 мільярда рублёў, а ў сучаснасьці кошт прамысловае прадукцыі большы на палову земляробскае прадукцыі.

Трэба дадаць, што ўзрост люднасьці ў Сав. Расеі за апошнія два гады выносіць 6.5 мільёны, г. зн. ёсьць большы, чым у рэшце Эўропы, прычым у 1940 годзе, пры такім узросьце ліку сем'яў і зьмяншэньню сьмяротнасьці—што заўважваецца ад пэўнага часу—СССР. будзе мець 190 мільёнаў насяленьня.

З вышай прыведзеных даных ясна відаць, што Расея (СССР. Рэд.) ў далейшай будучыне будзе адыгрываць вялікую ролю ў міжнародным гандлі, робячы свой уплыў на укладзе гаспадарчых адносінаў ўсей Эўропы".

*) Нешта замудра гаворыць тут п. рэфэрэнт. Выходзіць што нібы пры цары „інородцы„ былі ў лепшым палажэньні, як цяперашнія заправўды вольныя народы СССР. Ці можа рэфэрэнт думаў якраз наадварот? Па крайняй меры гэты выраз пярэчыць усяму дакладу.

# ДРОБНЫЯ НАВІНЫ

ЧАН - КАЙ - ШЭК падаўся у дымісію. Адзначыўся ён тым што здрадзіў рэвалюцыйнай барацьце рабочых Кітаю, апроч таго затапіў у крыві сялянскаработніцкі рух. Адзін кат рабочых адышоў. На яго мейсца стаў другі- адзін з правадыроў Куомінтагу (правіцы) ТангЙЕН- КІ. Канец ім паложыць сялянскаработніцкі урад ў Кітаі.

СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧА КАМІТЭТУ СССР нядаўна закончыла сваю працу. На гэтай сэсіі старшыня Ц. В. К. Рыкаў зрабіў даклад аб унутраным палажэньні СССР, а камісар заменжных спраў Літвінаў аб міжнародным палажэньні і адносінах, якія істнуюць паміж СССР і капіталістычнымі дзяржавамі.

Разам з сэсіяй Ц. В. К. адбылася сэсія Рады Нацыянальнасьцяў СССР, у якой узялі удзел прадстаўнікі усіх рэспублікаў і народаў, якія жывуць у Савецкім Саюзе.

2909 ГАЛАСОЎ і 5 МАНДАТАЎ дасталі камуністы у часе апошніх выбара[ў] да валасных рад на Горнай Сілёзьі (Польшча).

АРЫШТЫ КАМУНІСТАЎ адбыліся нядаўна у павеце Ковельскім і Любамірскім, якія таксама вялі акцыю Мопр'у (Міжнародная арганізацыя Помачы Рэвалюцыянэрам).

НА ЧАТЫРЫ ГАДЫ ТУРМЫ засуджаны у Торуні вучыцель пачатковае школы за гвалт малалетніх вучаніц. Падобны выпапак быў у Лідзкім пав. і інш.

„МУСОЛІНІ, МІНІСТАР КАТАЎ, КРЫВАВЫ САБАКА, ЗАБОЙЦА РАБОЧЫХ",—так прывіталі чацьвертага сьнежня 1929 г. камуністычныя паслы ў Рэйхстагу міністра унутраных спраў Нямеччыны Сэвэрына.

У ЧАСЕ камуністычнай дэманстрацыі у Варшаве дня 4 сьнежня г.г. быў застрэлены Шыя Грюдвальд.

2 САМАЛЁТЫ наскочылі адзін на адного у часе манэўраў у Львове, у выніку чаго зваліліся на зямлю. З лётчыкаў былі забіты на месцы, адзін цяжка ранены.

НА АРАВІЙСКІМ паўвостраве шырока разгарнулася паўстаньне процi Караля Рэджасу. Ангельскія імпэрыялісты моцна занепакоены гэтым рухам.

22 КАМУНІСТЫЧНЫЯ ПАСЛЫ у французскім парлямэнце пазбаўлены быць на паседжаньні парлямэнту у працягу аднаго месяца і на гэты-ж час пазбаўлены дыет, за тое, што яны пры

